# ДЕНЬ

Штотыднёвік, выдаецца з красавіка 2001 года, выходзіць шточацвер, выдавец і заснавальнік ТДА «Дзеньпрэс»

26 лютага – 3 сакавіка 2004 года № 5 (177) Кошт 500 рублёў


**ПАДПІСКА**

**Адзіная магчымасць аператыўна атрымліваць ДЕНЬ**

стар. 5

# Канфіскавана на карысць...

**Амаль удвая павялічваецца штогод колькасць тавараў, якія затрымліваюць беларускія мытнікі. Канфіскацыя тавараў, якія ідуць праз нашую краіну транзітам, настолькі пастаўлена на паток, што Беларусь за мяжой набыла рэпутацыю «чорнай дзіры, у якой знікаюць грузы». А рэалізацыя канфіската стала для дзяржавы як своеасаблівай формай папаўнення бюджэта, так і добрым бізнесам, аналагаў якому няма ў аніводнай цывілізаванай краіне.**

Першы раз са словам «канфіскат» я пазнаёмілася ў 10 гадоў, калі на дзень народзінаў бацькі падарылі мне жывую чарапашку. Тады, на пачатку 90-х гадоў, у гісторыі Гарадзенскай рэгіянальнай мытні гэта было адно з першых буйных затрыманняў. Ніхто не ведаў, куды падзець цэлую машыну паўзуноў, якіх кантрабандай правозілі праз беларуска-польскую мяжу. І чарапах «сплавілі» ў мясцовы заапарк, які за капейкі прадаваў жывёлаў усім жадаючым.

З тых часоў шмат што змянілася. Той чарапахі даўно няма, а вось канфіскат трывала ўвайшоў ва ўжытак гарадзенцаў. Каб рэалізаваць усё гэтае дабро, у Гродне, як і ў іншых гарадах нашай краіны, нават сталі адкрывацца спецыялізаваныя крамы. Што там прадаецца, і куды ідуць грошы ад рэалізацыі канфіскаваных тавараў, паспрабаваў высвятліць ДЕНЬ.

*Працяг на стар. 3*



Фота Юліі ДАРАШКЕВІЧ

**У краме «Прэстыж» ажыятаж пакупнікоў не спадае ўжо тры месяцы**

## «Газавы шантаж» пакуль не паўплываў на працу «Азота»

**Часовае адключэнне газа не адбілася на працы галоўнага нафтахімічнага прадпрыемства рэспублікі – ААТ «Гродна Азот». За кошт адключэння іншых крыніц спажывання, ціск у сетцы быў захаваны. Затрымка ў вырашэнні канфлікту магла цалкам спыніць вытворчасць азотных угнаенняў. Гэта б выклікала ланцуговую рэакцыю, якая магла прывесці да спынення ўзаемазвязаных прадпрыемстваў нафтахімічнага комплексу, такіх як «Нафтан», Гомельскі хімзавод, Гарадзенскае і Магілёўскае «Хімвалакно», «Белшына»...**

Таксама мог сур'ёзна пацярпець шэраг прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі. У выпадку поўнага спынення «Азота» для яго новага запуску спатрэбілася б сем-дзевяць дзён (шэсць-сем – на запуск вытворчасці аміяка і адзін-два дні – на запуск карбаміда) і больш за пяць мільёнаў еўра.

Газ для «Азота» ўсё роўна, што «Азот» для астатніх прадпрыемстваў нафтаперапрацоўчага комплексу. «Азот» з'яўляецца самым буйным спажыўцом тэхналагічнага газу ў рэспубліцы. Тут газ выкарыстоўваецца для вытворчасці аміяка, які з'яўляецца асноўнай сыравінай для вырабу азотных угнаенняў. За месяц «Азот» спажывае 120-130 мільёнаў кубічных метраў газу. З іх 40-50 мільёнаў прадпрыемства атрымлівае паводле непасрэдных кантрактаў ад ЗАТ «Газ-ойл» (Расея). Астатняе забяспечвае дзяржава. «Пакуль назіраецца ліхаманка коштаў, дык называць канкрэтныя лічбы не варта,» – лічыць кіраўніцтва прадпрыемства. Але газ ад дзяржавы прадпрыемства атрымлівае па ільготнай цане. Верагодна, ільготы захаваюцца і надалей, але абсалютная лічба будзе павялічвацца ў залежнасці ад таго, як будзе даражэць расейскі газ. Павелічэнне коштаў на сыравіну пацягне за сабой павышэнне затратнага механізму. Прычым затраты адаб'юцца як на сыравіне, так і на энерганосьбітах, на паўфабрыкатах і г. д. Захаваць рэнтабельнасць прадпрыемства зможа за кошт экспартных паставак. Аднак, пачынаючы са студзеня, «Азот» працуе толькі на ўнутраны рынак, каб забяспечыць палі краіны азотнымі угнаеннямі.

**Ганна ЖАХОЎСКАЯ**

## Візы ў Польшчу па 5 еўра

**Ужо летам кошт візаў у Польшчу можа зменшыцца на 50 адсоткаў. Пра гэта заявіў міністр замежных справаў Беларусі Сяргей Мартынаў пасля сустрэчы са сваім польскім калегам Влодзімежам Цімашэвічам.**

Неафіцыйная сустрэча міністраў замежных справаў Польшчы і Беларусі адбылася 21 лютага ў Беластоку на XI фестывале «Беларуская песня 2004». На выніковай прэс-канферэнцыі Сяргей Мартынаў заявіў, што паміж Беларуссю і Польшчай дасягнута пагадненне ў справе стварэння новых памежных пераходаў і змяншэння на 50 адсоткаў коштаў візаў.

– Пакуль што было заяўлена пра намеры... Калі гэта рэалізуецца, сказаць цяжка, бо размова можа ісці некалькі месяцаў. Усё будзе залежыць ад аператыўнасці службаў абодвух бакоў мяжы. Для вырашэння гэтага пытання, створана адмысловая двухбаковая працоўная група, – сказаў карэспандэнту ДНЯ прэс-сакратар Міністэрства замежных справаў Беларусі Андрэй Савіных.

Старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Ян Сычэўскі, які прысутнічаў на прэс-канферэнцыі беларускага міністра, заявіў, што польскія памежныя службы «перадузята ставяцца» да грамадзянаў Беларусі. Прыкладам гэтага, на думку старшыні грамадскай арганізацыі беларусаў Польшчы, з'яўляецца затрымка, больш чым на гадзіну, польскімі памежнікамі намесніцы старшыні Гарадзенскага аблвыканкама Марыі Біруковай.

– На мяжы здараюцца розныя рэчы... Я не думаю, што тут ёсць нейкая сістэма і казаць, што такія выпадкі значна ўскладняюць нашыя адносіны нельга. Тут усё залежыць ад асабістай культуры службовых асобаў. Аднак трэба, каб гэтая з'ява выкаранялася як па нашым, так і па польскім баку мяжы, – заявіў Андрэй Савіных, каментуючы пункт гледжання Яна Сычэўскага.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

### Надвор'е Дня

**28 лютага** па Гродне вобл., удзень -1, уначы -3, ападкі;

**29 лютага:** вобл., удзень 0, уначы -3, ападкі;

**1 сакавіка:** вобл., удзень -7, уначы -4, без ападкаў;

**2 сакавіка:** вобл., удзень -9, уначы -12, без ападкаў;

**3 сакавіка:** вобл., удзень -4, уначы -14, без ападкаў.

## Не маўчыце, Ларыса Васільеўна!

Пару дзён таму ў рэдакцыю патэлефанавала Ларыса Васільеўна. Менавіта так прадставілася гэтая жанчына з камандным, безапеляцыйным голасам.

– Прачытала вашу газету і ад абурэння не магу супакоіцца. Такое адчуванне, што ва ўсе бакі ад вашых артыкулаў пырскае атруту. Навошта вы ўсё пэцкаеце чорнай фарбаю?.. Чаму вы так ненавідзіце Савецкі Саюз?.. У гэтай краіне мы ўсе жылі, як у Бога за пазухаю, а вы пішаце, што пенсіі тады былі такімі, каб «былe дажыць да смерці»... Дай Бог, каб у сённяшняй настаўніцы была такая пенсія, якую атрымлівалі педагогі ў Савецкім Саюзе!

Ларыса Васільўена доўга і агрэсіўна гаварыла ў трубку. Узгадала, што яна прытрымліваецца апазіцыйных поглядаў, але не любіць апазіцыю, бо тая «крытыкуе ўладу». Адзначыла, што савецкая ўлада разбурала ўсе гістарычныя помнікі Гродна без разбору, а ў ДНІ названыя толькі каталіцкія святыні...

Адным словам, усё ў нашай газеце не спадабалася Ларысе Васільеўне. Але мая прапанова напісаць пра гэта, выказаць свой пункт гледжання ў ДНІ, аргументавана паспрачацца з нашымі аўтарамі на газетных палосах, не спадабалася ёй яшчэ больш. Паважаная Ларыса Васільеўна не захацела выступіць публічна, бо палічыла, што гэтая прапанова ўсяго толькі даніна ветлівасці, і яе артыкул ніколі не будзе надрукаваны ў ДНІ.

На жаль, у спадчыну ад таго ж Савецкага Саюза, акрамя ўспамінаў пра пенсіі, многія з нас атрымалі стойкае ўяўленне пра газеты, як пра рупар агітацыі і прапаганды, «приводные ремни»... Калі ўжо савецкая газета «кляйміла пазорам» Сахарава альбо Салжаніцына, то побач не магло быць месца альтэрнатыўнай думцы. Шкада, але цяперашнія афіцыёзныя беларускія сродкі масавай інфармацыі адзін у адзін паўтараюць тыя самыя схемы, тыя самыя метады. Тэлевізары і газеты сталі ва ўлады каляровымі, а змест застаўся той самы, чорна-белы: усё, што тычыцца ўлады – белае; усё, што тычыцца апазіцыі – чорнае...

Журналісты ДНЯ выспавядаюць іншыя прынцыпы ў журналістыцы. Мы адкрытыя да кожнай думкі, мы цэнім любую магчымасць даць свайму чытачу максімум аб'ектыўнай інфармацыі, пазнаёміць з усімі пунктамі гледжання. Асабіста я, як грамадзянін, не падзяляю захаплення нашай чытачкі ні Савецкім Саюзам, ні ягонымі пенсіямі. Аднак, як журналіст і рэдактар, заўсёды гатовы даць вам, Ларыса Васільеўна, месца на старонках ДНЯ. Бо толькі такі падыход можа выратаваць нашу краіну ад развалу, які некалі, на нашай памяці, дарэчы, надарыўся з Савецкім Саюзам, дзякуючы хлусні прыдворных «шчоўкапёраў» і маўчанню, так званых, простых людзей, да якіх адносіце сябе і вы, Ларыса Васільеўна.

Не маўчыце, Ларыса Васільеўна!

**Мікола МАРКЕВІЧ**

# Ці надзейна захоўваць грошы ў банку?

**Беларускія сродкі масавай інфармацыі паведамілі, што за мінулы месяц уклады насельніцтва ў нацыянальнай валюце павялічыліся на 7,7 адсотка. Нацыянальны банк тлумачыць жаданне насельніцтва трымаць свае грошы ў банках тым, што дзяржава гарантуе поўную захаванасць зберагання грамадзян. Мы пацікавіліся ў дасведчаных людзей і наведвальнікаў сайту pahonia.promedia.by, ці падзяляюць яны пункт гледжання Нацыянальнага банку на гэты конт, ці давяраюць яны беларускім банкам захоўваць свае грошы?**

**Што з гэтага атрымалася, глядзіце самі.**

### ЗА



■ **Галіна Янчук,** *загадчыца аддзялення 426/59 ашчаднага банку «Беларусбанк» у Гродне:*

– Захоўваць грошы ў банку не толькі надзейна, але і выгадна. Высокая працэнтная стаўка, гарантаваная дзяржавай захавальнасць укладаў у беларускай і замежнай валюце. Ніколі не ўзнікае праблемаў з вяртаннем грашовых сродкаў, з затрымкай выплаты нават вельмі буйных укладаў, у тым ліку і валютных. Грошы заўсёды выдаюцца па першым запатрабаванні кліента. Гэта, натуральна, цэніцца насельніцтвам, таму колькасць укладчыкаў расце з кожным месяцам. Людзі сталі несці свае сродкі, бо разумеюць, што ў банку іх зберагання працуюць на іх – прыносяць дадатковы заробак у выглядзе працэнтаў. Банк прапануе насельніцтву станоўчыя працэнтныя стаўкі па ўкладах, гэта значыць, якія перавышаюць індэкс спажывецкіх коштаў, што дазваляе не толькі абараніць уклады ад інфляцыі, але і прынесці ўкладчыкам рэальны даход. Таму я таксама з'яўляюся ўкладчыкам. Апошнім часам супрацоўнікі банкаў адзначаюць, што сярод іх сталых кліентаў усё часцей можна бачыць маладых людзей. Лічу, што гэта звязана з ростам даверу да банкаў.

### СУПРАЦЬ



■ **Мікалай Варабей,** *прадпрымальнік:*

– Захоўваць грошы ў банку нявыгадна. Нашыя банкі не здольныя памножыць уклад, яны нават не заўсёды абараняюць яго ад тэмпу росту інфляцыі. Максімальная гадавая працэнтная стаўка 30 пакрывае афіцыйныя дадзеныя па інфляцыі, але не ўлічвае схаваную інфляцыю, якая значна большая. І яшчэ, паклаўшы грошы ў банк, можна ўвогуле з імі развітацца. І ніхто за гэта не панясе адказнасці. Таму грошы лепш захоўваць і ўкладваць у нерухомасць, альбо траціць усё на сябе і не думаць пра заўтрашні дзень. Афіцыйныя дадзеныя аб павелічэнні колькасці кліентаў банкаў я, асабіста, тлумачу пераводам прадпрыемстваў на разлік праз банкаўскую сістэму і павелічэннем колькасці пенсіянераў у нашай дзяржаве. І ўвогуле, пры хворай эканоміцы ў цэлым, эфектыўная праца банкаў немагчымая.

**Ці надзейна трымаць грошы ў банку?**




*Вынікі інтэрнэт-галасавання на http://pahonia.promedia.by*

Калі верыць статыстыцы, у 35 адсотках беларускіх сем'яў жанчына з'яўляецца асноўным хатнім кармільцам. Прычым гэтая лічба з кожным годам павялічваецца. Для многіх сем'яў падобная сітуацыя становіцца сур'ёзнай праблемай, выклікае непаразуменні і сваркі паміж мужам і жонкай. Вядучая роля жанчыны ў дабрабыце сям'і стала прычынай распада кожнага дваццатага шлюбу.

Ці нармальна, калі жонка зарабляе больш, чым муж?

Чакаем вашых меркаванняў у пятніцу 27 лютага з 18 да 19 гадзінаў па тэлефоне:

**72-29-96**

## Лічба дня

**1241**

студэнт Гарадзенскага Дзяржаўнага універсітэта не здаў зімовую сесію. Паводле інфармацы навукова-метадычнага аддзела гэтай вышэйшай установы, па выніках іспытаў двоечнікі склалі 22 адсоткі ад усіх студэнтаў. Гэта на чатыры адсоткі болей, чым у мінулым годзе. Больш за ўсё непаспяваючых студэнтаў на матэматычным і фізіка-тэхнічным факультэтах.



*Праз лінзы Алеся ЧОБАТА*

# Труба без канца

**Мы – народ хітры і ўпарты, бо па-за сваімі інтарэсамі не прызнаем нідзе і нічога, ніякіх словаў і дамоваў. Прэзідэнт Лукашэнка першы ва ўпартасці сярод усіх беларусаў. Такія мы людзі. Чаго не разумеюць немцы, чаго не хочуць разумець палякі і нашто да гэтай зімы паблажліва пазяхалі расейцы.**

Такая ўпартасць па-беларуску не заўжды кепская. Наадварот, калі на табе едзе якісьці хам, яшчэ больш хам, чым ты сам, такая ўпартасць добрая. Але нашыя плюсы і мінусы, спалучаныя між сабой як сіамскія блізняты, – не разарваць. З намі вельмі цяжка, амаль немагчыма дамовіцца, бо не шануем мы словаў і дамоваў, не вызнаем кампрамісаў. Любую прапанову маем за слабасць партнёраў, а любы іншы інтарэс – не варожы, проста іншы, не наш – усё роўна маем за варожы. Паводле нас, цэлы свет мае быць і жыць толькі так, як мы самі.

«Газпрам», без жарту, спыніў пастаўкі газу. Услед – маланкавая і надзвычай рэзкая заява беларускага прэзідэнта: словы пра газавы шантаж і тэрарызм. Чаго раней не было. Потым самога Лукашэнку атакаваў узаемна расейскі МІД. Чаго раней таксама не было. Але газ ізноў пайшоў па трубе, а Газпрам да канца зімы вярнуўся да перамоваў з беларускім бокам.

Да газавага «тэрарызму» рускія не падрыхтаваліся і, больш таго, спужалі спажыўцоў свайго газу: палякаў і немцаў.

Бо былі ўпэўненыя, што беларусы не толькі не маюць выйсця, але яшчэ і спалохаюцца, бо яны «простые колхозники». Спалохаюцца з прычыны сваёй ніжэйшасці, неакрэсленага нацыянальнага характару, нацы без анічога свайго. А скончылася тым, што самі рускія селі з размаху ў лужу. Бо замест таго, каб ціснуць на Лукашэнку, немцы нагадалі, што гэта не Нямеччына залежыць ад расейскага газу, а Расея, якая запазычыла немцам вышэй вушэй. А гарачыя палякі ўдарылі на алярм: лепш ці то свой газ пампаваць, ці дарабіць недаробленыя кантракты з нарвежцамі, каб, нават, часткова не залежыць ад непрадказальнага Усходу.

І цяпер перспектываў у Газпрама дыктаваць свае ўмовы беларусам чым далей, тым меней. Бо ў Менску ўжо падлічваюць і аддаюць у газеты для адкрытых публікацыяў чаго і колькі атрымала Расея ад Беларусі за апошнія дзесяць год. І зараз выйдзе, што гэта Пуцін вінен заплаціць Лукашэнку, а не Лукашэнка Газпраму. А той Газпрам, чым далей будзе пампаваць газ у беларускую трубу, тым сам болей будзе вінен беларусам.

Але, чым бы не скончылася гэтая газавая вайна, цэны на газ у самой Беларусі раслі і будуць расці. Бо абывацель у нас аддзелены ад дзяржавы, а дзяржава ад абывацеля. Грамадства, супольнасць і сама нацыя на Беларусі адсутнічае, ёсць бюракратыя і ёсць просты люд.




**5 год таму**

«... У мінулую пятніцу А. Дзіргінчус атрымаў папярэджанне ў пракуратуры Ленінскага раёна г. Гродна за тое, што ён з'яўляецца членам рэспубліканскай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ. Паводле пастановы генеральнага пракурора, яго выклікалі і патлумачылі, што яго дзеянні – незаконныя...»

**«Биржа информации», 25 лютага 1999 года**

**10 год таму**

«...Шматлікія велізарныя кайстры, у складзе якіх, у асноўным, пераважалі малочныя прадукты, яйкі і мясныя вырабы, штодзень транспартуюцца няўрымслівымі гасцямі суседняй дзяржавы... Беларусаў у Літве паважаюць, але больш – за танныя прадукты».

**ПАГОНЯ, 24 лютага 1994 года**

**15 год таму**

«... Государственный экзамен по марксизму-ленинизму был призван выявить степень овладения студентами основными положениями марксистско-ленинской теории... Сегодня политическая суъбективность молодежи может выражаться через ее дела, как на пользу перестройки, так и во вред ей...»

**«Гродненский университет», 1 сакавіка 1989 года**

# Канфіскавана на карысць...

Працяг. Пачатак на стар. 1



Фота ByMedia.net

Магчыма, тавары з гэтых фураў папоўняць паліцы крамаў па продажы канфіската

### Вяртанню і абмену не падлягае

Да заканчэння абедзеннага перапынку застаецца яшчэ хвілін 15, а перад дзвярыма крамы ўжо чакаюць некалькі дзесяткаў чалавек. Публіка розная – ад пенсіянераў з торбачкамі да выхаленых дамачак, якія прыехалі на дарагіх аўто. Ажыятаж пакупнікоў не спадае ўжо амаль тры месяцы з моманту адкрыцця гэтай крамы. І не дзіва – у Гродне гэта пакуль адзінае месца, дзе можна ўбачыць такую вялікую колькасць модных заходніх лэйбаў, якія спалучаюцца з невысокімі коштамі. Гутарка ідзе пра краму з гучнай назвай «Прэстыж» ці, прасцей кажучы, пра магазін канфіскаваных тавараў.

Усе рэчы тут прадаюцца ў сярэднім з 20-працэнтнай зніжкай. Таму, модны ў Еўропе моладзевы абутак «Camelot», бытавую тэхніку «Bosch», «Siemens», кампутарныя маніторы «Samsung» тут можна набыць значна танней, чым у фірмовых крамах. Прадаўшчыцы распавядаюць, як нядаўна адна з наведвальніцаў наракала, што «набыла за мяжой куртку «Columbia» за 250 даляраў, а тут такая самая вісіць за 200 тысячаў».

Імпэт наведвальнікаў азмрочвае, хіба, толькі вялізная шыльда на ўваходзе, якая нагадвае, што канфіскаваны тавар вяртанню і абмену не падлягае. І хоць уся прадукцыя перад выстаўленнем на прылавак правяраецца на спраўнасць і адсутнасць брака, набываеце вы «ката ў мяшку»: ніхто вам не дасць гарантыі, што майка «Diesel» зроблена не ў кітайскім падвале, а тэлевізар «Sony» прапрацуе больш за тыдзень.

Аднак загадчыца крамы Алена Сідар сцвярджае, што на якасць набытых рэчаў пакуль ніхто не скардзіўся. Тым больш, па яе словах, пакупнікамі канфіскаваных тавараў становяцца людзі, якія разбіраюцца ў сусветнавядомых фірмах, ведаюць сапраўдны кошт іх прадукцыі і адрозніваюць арыгінал ад падробкі. Многія наведвальнікі прыходзяць у «Прэстыж» з мэтай абзавесціся экстравагантнымі рэчамі, пра існаванне і прызначэнне якіх сярэднестатычны беларус можа, нават, і не здагадвацца. Напрыклад «фандзю», посуд з сістэмай падагрэва. Ставіце такую патэльню на стол, запальваеце агеньчык, і ежа ўвесь час не астывае. За мяжой, нягледзячы на высокі кошт – пад 170 еўра за набор з 6-ці прыбораў, – такі посуд досыць папулярны, а ў нашай краіне яго можна купіць толькі ў крамах, якія гандлююць канфіскатам.

Акрамя дарагіх і экстравагантных рэчаў, у краме хапае і таннай дробязі: бялізны, парасонаў, канцтавараў і амаль капеечнай касметыкі, за якой стаяць чэргі.

Пра папулярнасць крамы сведчыць і тое, што за нядоўгі час яе існавання (з 1 снежня 2003 года) у «Прэстыжы» было рэалізавана тавараў на суму больш за паўмільярды рублёў.

> 
>
> ■ *Яраслаў Раманчук, кіраўнік навукова-даследчага цэнтра Мізеса:*
>
> – Канфіскацыя – гэта ненармальная эканамічная з'ява, якая парушае правы ўласнасці. Тое, што канфіскацыя грузаў пастаўлена на паток, негатыўна складаецца на стаўленні да нашай краіны. Расейскія і заходнія кампаніі адмаўляюцца страхаваць грузы, якія ідуць транзітам праз Беларусь, бо тэрыторыя нашай краіны стала зонай высокай рызыкі.
>
> Канфіскат дае шырокія магчымасці для махінацый. Вы думаеце, што грошы ад яго рэалізацыі ідуць у бюджэт? Самае крыўднае, што не. Пасля ацэнкі канфіскат па заніжаным кошце прадаецца камерцыйным структурам, якія яго рэалізуюць па нармальных цэнах. Прычым 85 адсоткаў тавараў прадаюцца па-за межамі Беларусі – у Расеі, ва Украіне. Гэтая сістэма падрывае рэпутацыю нашай краіны.

> ■ *Аляксандр Блахін, амбасадар Расейскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь:*
>
> – Тое, што колькасць канфіската з кожным годам павялічваецца амаль удвая, нас насцярожвае і турбуе. Паводле звестак Міністэрства транспарта РФ, больш за 10 тысячаў грузавых машынаў трапілі, летась, у нашую краіну, мінуючы Беларусь.
>
> Мне падаецца, што ў дзеяннях беларускіх мытных органаў ёсць сістэмная памылка. Сутнасць яе ў тым, што грузы (пераважна расейскія) падвяргаюцца канфіскацыі на падставе меркавання беларускіх мытнікаў аб тым, што фірма-атрымальнік ці створана незаконна, ці дзейнічае з парушэннямі заканадаўства. Аднак вызначаць, законна ці незаконна створана юрыдычная асоба на тэрыторыі замежнай дзяржавы, – рэч для мытнікаў недапушчальная. Гэта кампетэнцыя нашых судоў.
>
> 

### Адкуль бярэцца дабро

Рэгулярнае абнаўленне асартымента ў крамах па продажы канфіската забяспечваюць у першую чаргу мытныя органы. Толькі за мінулы год супрацоўнікі Гарадзенскай рэгіянальнай мытні затрымалі фуры з бытавой тэхнікай, галандскімі кветкамі, нямецкім хлебам, італьянскім віном – усяго на суму амаль 10 мільярдаў рублёў. У большасці выпадкаў, падставай для затрымання сталі недастаерныя звесткі, указанныя ў дэкларацыі з мэтай знізіць кошт мытных плацяжоў.

З кожным годам колькасць затрыманых грузаў расце, за што мытнікаў часта абвінавачваюць у празмернай стараннасці. Паколькі 80 адсоткаў грузаў, якія ідуць транзітам праз нашу краіну, расейскія, большасць нараканняў беларускія мытныя службы атрымліваюць ад усходніх суседзяў.

Амбасадар Расейскай Федэрацыі ў Беларусі Аляксандр Блахін абвінавáціў беларускія мытныя службы ў тым, што грузы падвяргаюцца канфіскацыі па фармальных прычынах, якія носяць ненаўмысны ці спрэчны характар.

Іншай думкі прытрымліваюцца беларускія мытнікі:

*– Здараецца так, што ў дэкларацыі напісана «цукеркі», а фура вязе бытавую тэхніку,* – распавядае начальнік Гарадзенскай рэгіянальнай мытні **Юры Сянько.** *– Ці ўказаная фірма-атрымальнік аказваецца «ліпай». Дзе ў такім выпадку гарантыя, што фура, якая ідзе нібыта ў Маскву, не выгрузіцца пад Лідай? Хай афармляюць дакументы па законе і едуць сабе спакойненька.*

А павелічэнне колькасці затрыманых грузаў Юры Сянько тлумачыць не тым, што ягоныя супрацоўнікі працуюць усё лепш і лепш, а тым, што грузапаток праз беларускую мяжу з кожным годам павялічваецца на 15-20 адсоткаў. Адпаведна расце і колькасць складзеных пратаколаў за правапарушэнні на мяжы.

Лёс затрыманых тавараў вырашае суд. Аднак практыка паказвае, што сам працэс – гэта толькі фармальнасць. Суддзя звычайна падтрымлівае прапанову мытных органаў і фактычна ўсе затрыманыя на мяжы грузы канфіскуюцца на карысць дзяржавы. І толькі меньш за адзін працэнт уладальнікаў вяртаюць сваю маёмасць назад.

### Куды ідуць грошы

Безумоўна, канфіскат мог бы значна «падняць» мясцовы бюджэт. Выручаныя грошы ад рэалізацыі затрыманых Гарадзенскай рэгіянальнай мытняй тавараў маглі б, напрыклад, два гады пакрываць выдаткі на ўтрыманне ўсіх шпіталёў у Гарадзенскім раёне. Аднак усе канфіскаваныя грузы перадаюцца ў распараджэнне Дэпартамента па гуманітарнай дзейнасці Упраўлення справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. І ўжо там, у Менску, прымаецца рашэнне, якім чынам далей размеркаваць тавары.

Адмысловая камісія праводзіць ацэнку тавараў, прычым, паводле меркавання незалежных экспертаў, рэальны кошт тавараў і ацэначны кошт значна адрозніваецца. Так, калі Дзяржаўны мытны камітэт сцвярджае, што за 2003 год было затрымана тавараў на 70 мільёнаў даляраў (г.зн. паступіла ў бюджэт краіны), то, паводле інфармацыі расейскіх перавозчыкаў, гэтая сума складае не менш за 230 мільёнаў даляраў. Куды знікае розніца ў мільёны даляраў, запытаецеся вы? Менавіта гэтае пытанне задаюць зараз Галіне Жураўковай, экс-упраўляючай справамі прэзідэнта, якая па падазрэнні ў раскраданні і злоўжыванні службовым становішчам знаходзіцца зараз у следчым ізалятары. Як сцвярджае БДГ, менавіта махінацыі з канфіскатам сталі адной з прычынай арышту прэзідэнцкага «завхоза».

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ**

**Кошт тавараў, канфіскаваных на беларускай мяжы**




Паводле інфармацыі амбасады Расейскай Федэрацыі на Беларусі

## Апытанне дня

***Ці набываеце вы канфіскаваны тавар? З такім пытаннем звярнулася наша карэспандэнтка да жыхароў Гародні.***



**Вольга Жыдок, студэнтка:**

-А там ёсць што набываць?! Не, такі тавар я не куплю, бо не бачу ў гэтым неабходнасці. Па-першае, у канфіската вельмі небагаты выбар. Па-другое, я маю магчымасць прывозіць вопратку і бытавыя прыборы з Польшчы па тых жа коштах, нягоршай якасці ды яшчэ і з сертыфікатам.



**Валеры Татукевіч, студэнт:**

-Усё залежыць ад таго, які тавар прадаецца. Але, часцей за ўсё, я аддаю перавагу канфіскаваным таварам. Кошты там ніжэйшыя, чым у крамах. А што наконт якасці, то і на рынку, наўрад ці, вам яе гарантуць.



**Валянціна Васілеўская, працоўная:**

-Канешне, не! Там жа напісана «абмену не належыць»! На кожны тавар павінна быць гарантыя, магчымасць ягонага звароту ці абмену. А набываць невядома што я не рызыкну. «Канфіскату» я не давяраю.



**Аляксандр Агееў, вучань старэйшых класаў:**

-Тэлевізар, бытавую тэхніку ці аўтамабіль я б не раіў там набываць. Гарантыя на такія рэчы павінны быць, а ў канфіскаванага тавару яе няма. А вось, што тычыцца рознай канцылярскай драбязы, то чаму не. Такія рэчы я набываю.



**Ганна Шостка, пенсіянерка:**

-Бывае, што і куплю канфіскаваны тавар. Кошты на такія рэчы ніжэйшыя, а для нас, пенсіянераў, гэта галоўнае. З нашымі пенсіямі выбіраць сярод якаснага ці неякаснага тавара ўжо не прыходзіцца. Крамы сёння таксама не даюць аніякай гарантыі ў тым, што набываеш. Таму лепш куплю танны «канфіскат».

**Апытвала Юля КОЦКАЯ, фота аўтаркі**

# Супраць абдзіралаўкі

## Гарадзенскія прадпрымальнікі выйдуць на плошчу Леніна

**Першага сакавіка ў Гродне запланавана акцыя пратэсту гарадзенскіх прадпрымальнікаў. Прадпрымальнікі плануюць выйсці да будынкаў абл- і гарвыканкамаў, каб выказаць сваё абурэнне ўвядзеннем новых правілаў гандлю на рынках. Па словах арганізатараў акцыі, удзел у ёй прымуць прадстаўнікі усіх гарадзенскіх рынкаў.**


Фота ByMedia.net

*Рынак зачынены. Усе пайшлі на мітынг?*

### Новыя правілы

На думку намесніка старшыні рэспубліканскага аб'яднання прадпрымальнікаў «Перспектыва» Зміцера Іваноўскага, пастанова Савета міністраў «Аб некаторых пытаннях дзейнасці рынкаў», якая пачынае дзейнічаць 24 сакавіка, фактычна знішчыць рынкавы гандаль у Гродне.

– Па нашых падліках у выніку новых правілаў, ад 25 адсоткаў прадпрымальнікаў, якія гандлююць неспажывецкімі таварамі, і да 80 адсоткаў тых, хто гандлюе спажывецкімі таварамі, будуць вымушаны спыніць сваю дзейнасць, – лічыць Зміцер Іваноўскі.

Як патлумачылі карэспандэнту ДНЯ ва Упраўленні гандлю і грамадскага харчавання гарадзенскага гарвыканкама, прыняцце новых правілаў гандлю на рынках выклікана «неабходнасцю абараняць правы спажыўцоў».

– Не мы прымаем новыя правілы, яны ўводзяцца па ўсёй краіне... Ёсць адмысловыя правілы гандлю для кожнай групы тавараў і на рынках яны часта не выконваюцца. Напрыклад, прадаецца электрычная тэхніка і няма разеткі, каб яе праверыць... Акрамя таго, зімой, каб праверыць тэхніку, трэба, як мінімум тры гадзіны, трымаць яе ў памяшканні, а толькі потым магчыма нейкая праверка, – гаворыць начальнік Упраўлення гандлю і грамадскага харчавання гарадзенскага гарвыканкама Уладзімір Стома. На яго думку, новыя правілы гандлю на рынках перш за ўсё карысныя для пакупнікоў.

– Я з 1996 года займаюся абаронай правоў спажыўцоў і таму магу вам заявіць, што ніякай карысці спажыўцам гэта не прынясе. Галоўны вынік – цэны вырастуць. Людзі даўно прызвычаіліся, што купіць дарагую і спраўджаную рэч магчыма у краме, а танней, але з пэўнай рызыкай, яе можна набыць на рынку. Хто гатовы рызыкаваць – той і ідзе на рынак. Цяпер рынкі спрабуюцьураўняць з крамамі. Вынік гэтага цалкам прадказальны – рынкі будуць пустыя, – гаворыць старшыня Беларускага страйкаму прадпрымальнікаў Валеры Леванеўскі.

Уладзімір Стома не згодны з песімістычнай ацэнкай лідарамі прадпрымальніцкага руху наступстваў увядзення новых правілаў гандлю на рынках.

– Я думаю, што праблемаў быць не павінна. Ёсць павільёны, ёсць «Карона»... А тыя групы тавараў, якія згодна з новымі правіламі, можна будзе прадаваць на рынку і надалей будуць там прадавацца, – лічыць Уладзімір Стома.

### Новыя ліцэнзіі

Згодна з пастановай Савета міністраў № 16666 «Аб некаторых мерапрыемствах па рэалізацыі дэкрэта прэзідэнта РБ ад 14 ліпеня 2003 года № 17», прадпрымальнікі і юрыдычныя асобы да 1 сакавіка абавязаны звярнуцца ў адпаведныя органы для замены ліцэнзій. Найбольш распаўсюджанай сярод прадпрымальнікаў з'яўляецца ліцэнзія на розьнічны гандаль, якая ў Гродне выдаецца гарвыканкамам.

Паводле дадзеных аб'яднання «Перспектыва», у Гродне ў сферы гандлю працуе каля 6,5 тысячаў людзей. Нягледзячы на тое, што тут улічаны і наёмныя работнікі, то ўсё адно колькасць ліцэнзіяў вымяраецца на тысячы. Аднак чэргаў у гарадзенскім гарвыканкаме не назіраецца. Паводле дадзеных на 20 лютага, было выдадзена 120 ліцэнзіяў.

– Мы правялі інфармацыйную кампанію. Абвесткі былі ў «Гродзенскай праўдзе», на рынках, праводзілася спецыяльная сустрэча з прадпрымальнікамі, дзе да іх даводзілася інфармацыя па ліцэнзіям, але прымусіць прыйсці ці прыцягнуць некага за руку мы не можам, – гаворыць Уладзімір Стома.

Усталяваны дэкрэтам прэзідэнта № 17 кошт ліцэнзіі складае 100 еўра: 10 еўра бярэцца за афармленне дакументаў, а 90 – за саму ліцэнзію. Але гэта тычыцца тых, хто атрымлівае новую ліцэнзію. За ўнясенне зменаў у дзеючую ліцэнзію бярэцца 45 еўра.

### Забастоўкай ці мітынгам?

– Усё гэта робіцца для знішчэння прадпрымальнікаў як класа, – перакананы Зміцер Іваноўскі. Таму, на яго думку, адзіны выхад з гэтай сітуацыі – арганізацыя агульнарэспубліканскіх акцыяў пратэсту. Досвед арганізацыі забастовак прадпрымальнікі ўжо маюць, але ці з'яўляецца гэта дзейсным сродкам барацьбы?

– Я супраць бестэрміновай забастоўкі. Абвесціць яе лёгка, але як вытрымаць... Ніжэйшы слой прадпрымальнікаў, прыкладна 50 адсоткаў, складаюць тыя, хто працуе на сябе... Калі пачнецца бестэрміновая забастоўка, тады праз тыдзень яны будуць вымушаныя «жарыць» свае калготкі ці іншы тавар, якім гандлююць. Вышэйшы слой прадпрымальнікаў, тыя хто гандлюе ў павільёнах, падчас забастоўкі ўсё адно павінны заплаціць арэнду. Мы ж не хочам іх таксама «пакласці»... Калі ляжаць перад тэлевізарам і не працаваць, нічога не дасягнеш, – лічыць Іваноўскі.

Ён аддае перавагу вулічным акцыям пратэсту, якія, на ягоную думку, абавязкова прынясуць вынік.

Свой удзел у акцыі пратэсту дэкларуе і Валеры Леванеўскі.

– Мы заўсёды ўдзельнічаем у акцыя пратэсту, таму і цяпер не будзем у баку... Пра форму акцыі казаць яшчэ рана. У розных рэгіёнах ёсць розныя ідэі, але акцыя напэўна будзе, – гаворыць Леванеўскі.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

### Афіцыйна

Згодна з новымі Правіламі гандлю на рынках, якія пачнуць дзейнічаць з 24 сакавіка бягучага года, на гандлёвых месцах забаронена прадаваць:

1. Адзенне з натуральнага меху і скуры;
2. Электратавары і тэлерадыётавары (тэлевізары, радыёпрыёмнікі, відэаапаратура, халадзільнікі...);
3. Гадзіннікі;
4. Аўдыё– і відэакасеты, дыскі і г.д.;
5. Фота – і кінатавары ( фотаапараты, фотаплёнкі, фотаўспышкі і г.д.).

Прадпрымальнікі, якія гандлююць на рынках абавязаны:

– выдаваць пакупнікам дакумент, які падцвярджае факт пакупкі тавара;

– забяспечыць пакупніку ўмовы для прымеркі вопраткі і абутку;

– дэманстраваць пакупніку працаздольнасць тавара, калі гэта абумоўлена характарам тавара;

– прадстаўляць дакументы, якія падцвярджаюць пакупку тавараў, калі іншае не прадугледжана заканадаўствам.

Прадаўцы, якія з'яўляюцца юрыдычнымі асобамі альбо прыватнымі прадпрымальнікамі, не маюць права ажыццяўляць продаж тавараў у мэтах іх далейшага перапродажу.

---

**Аляксандр Красцін**, *намеснік старшыні Камітэта па прадпрымальніцтву гарадзенскага аблвыканкама:*



– Трэба разумець, што прыватнае прадпрымальніцтва – гэта не проста выратаванне ад беспрацоўя... Чалавек, які стаў прадпрымальнікам, узвальвае на свае плечы цэлы шэраг абавязкаў, характэрных для суб'екта гаспадарання... Таму такі падыход: я плачу адзіны падатак і адчапіцеся ад мяне – няправільны. Незадавальненне прадпрымальнікаў новымі правіламі гандлю можна зразумець. Вось ён стаяў, гандляваў на вуліцы, а цяпер рабіць гэтага нельга. Зразумела, што падобнае рашэнне ўладаў, прадпрымальніка не ўсцешыць... Але новыя правілы гандлю на рынках не ўсімі ўспрымаюцца негатыўна. Напрыклад, прадпрымальнікі, якія гандлююць у павільёнах, задаволеныя тым, што для ўсіх будуць аднолькавыя ўмовы дзейнасці. Што ж тычыцца акцыі пратэсту, то я нават не ведаю, які можа быць яе вынік... Галоўнае: павінен быць дыялог. Размова паміж прадстаўнікамі ўлады і прадпрымальнікамі – пры пасярэдніцтве Клуба прадпрымальнікаў – даўно вядзецца, і калі ёсць нармальныя прапановы, дык мы заўсёды паспрабуем іх рэалізаваць.

---

# Граф Прушынскі: «Калі няма лепшага, прэзідэнтам магу быць я!»

**Па запрашэнню прадстаўнікоў незарэгістраванага аб'яднання «Гарадзенская ініцыятыва», Гродна наведаў скандальна вядомы граф Аляксандр Прушынскі. 20 лютага ў памяшканні Таварыства беларускай школы адбылася ягоная сустрэча з прадстаўнікамі грамадскіх арганізацыяў і палітычных партыяў.**


Фота www.nn.by

*Аляксандр Прушынскі*

Аляксандр Прушынскі з'яўляецца сапраўдным графам. Ён нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Рагозніца Мастоўскага раёну. Ягоны дзед меў уласны палац. Пэўны час Аляксандр Прушынскі жыў у Польшчы, а потым ягоная сям'я эміравала ў Канаду. У 1992 годзе ён вярнуўся ў Беларусь. Аляксандр Прушынскі набыў скандальную вядомасць у 1994 годзе, калі, падчас прэзідэнцкай кампаніі, у яго не было грамадзянства Рэспублікі Беларусь, але ён паспрабаваў вылучыць сваю кандыдатуру на пасаду кіраўніка краіны.

Граф Прушынскі мае вышэйшую эканамічную адукацыю і дэклаpye, што ведае, як вывесці Беларусь з крызісу.

– Шмат хто жадае з'ехаць у Канаду, а я вярнуўся, бо аптыміст па жыцці. Я веру, што ў нас атрымаецца стварыць цудоўную краіну, – заяўляе Аляксандр Прушынскі.

Пра тое, як зрабіць з Беларусі цудоўную краіну, дзе цякуць «малочныя рэкі з кісельнымі берагамі», Прушынскі напісаў кнігу «Еўрарэмонт для Беларусі».

– Гэта мая праграма дзеянняў, я не кажу, што ведаю усё, але я прапаную цэлую праграму... Калі няма нікога лепшага, прэзідэнтам магу быць я, – упэўнена заяўляе Прушынскі.

Аднак, ці будзе Аляксандр Прушынскі прымаць удзел у прэзідэнцкіх выбарах, яшчэ не вядома. Рэч у тым, што як і ў 1994 годзе, Прушынскі не мае беларускага грамадзянства.

– Зразумела, што прэзідэнт павінен быць грамадзянінам сваёй краіны... Калі я вырашу, што трэба ісці на выбары, тады адмоўлюся ад канадскага і польскага грамадзянства, – дэкларуе Аляксандр Прушынскі.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

# Голае цела і апранутая душа

**Творчасць гарадзенскага мастака Антона Ляшчынскага, асабліва ягоныя эксперыменты з аголенай жаночай натурай, балансуе на мяжы кічу і эстэтычнай правакацыі. Яе пазнаму ацэньваюць у інтэлектуальным асяроддзі. Але ягоныя «акты» адназначна выклікаюць як абурэнне ў рэтраградаў і сучасных пурытанаў, так і шчырае недаўменне ў аматараў пікантнай «клубнічкі».**



Антон Ляшчынскі і яго мадэлі



## Эротыка ці парнаграфія?

Неяк у адной з тэлеперадач канала «Лад», прысвечанай «духоўнаму адраджэнню», з вуснаў, вельмі заангажаванай у рэлігійную справу жанчыны, прагучала надта красамоўная фраза. Маўляў, пакуль не перадалі праваслаўнай царкве былы базыліянскі кляштар, у якім мясціўся Гарадзенскі абласны музей гісторыі рэлігіі, там ладзіліся парнаграфічныя выстаўкі! Аказалася, што шчырая верніца мела на ўвазе персанальную экспазіцыю Антона Ляшчынскага, зладжаную яшчэ ў 1992 годзе. Хто бы мог падумаць? Як ні дзіўна, але большасць твораў гэтага мастака нават не выпраменьвае так жаданага эратызму!

– *Я не бачу ў творах Антона Ляшчынскага аніякай эротыкі, а тым больш парнаграфіі,* – заявіла адна з фотамадэляў мастака. – *Каб мне гэта нагадвала што-небудзь падобнае, дык я б у яго не здымалася. Усе створаныя ім вобразы атрымліваюцца нейкімі ўзнёсла-аддаленымі і пазамежнымі...*

Гэта пацвердзіла і другая персанальная выстава пад назвай «Мадэль і вобраз», што прайшла ў лютым 1996 года ў галерэі «У майстра». Тады мастак удала супрацоўнічаў з фатографам Міхалам Анішчанкам. Фотамадэль цалкам мела рацыю. Ані каліўца эратызму. Поўная эстэтызацыя «цела, як працоўнага матэрыялу». Мастацтва дзеля мастацтва, а не дзеля ўзбуджэння біялагічных функцыяў. Магчыма, вобразы тае выставы і падаліся, у адрозненне ад жывых прысутных мадэляў, нейкімі халаднаванымі і пазамежнымі, як бы з іншасвету. Але ж ад кожнай філасофіі вее нерэальным холадам...

## Паміж графікай і фатаграфіяй

– *Я захапіўся фотамастацтвам, калі прыехаў на працу ў Гродна пасля заканчэння «худграфа» Віцебскага педінстытута,* – успамінае **Антон Ляшчынскі.** – *Гэта мяне, як графіка, падштурхнула да новых творчых пошукаў. Я, канешне, спрабаваў займацца жывапісам. Але зразумеў, што толькі ў графічных творах ёсць прыхаваная інтрыга і таямніца, якая адразу не заўважаецца, а спасцігаецца апасля. Гэта духоўны працэс, які больш важны за нейкія фармальныя пошукі...*

Натуральна, мастацкі твор раптоўна і хутка не створыш. Тым больш, калі няма таленту, замілавання і... адпаведнага тэхнічнага абсталявання. Бо сапраўднае фотамастацтва – апрача таго, што творчы, але даволі працаёмкі і каштоўны ў сённяшніх умовах занятак.

– *Цяпер ужо не назіраецца імкнення да мастацкай фатаграфіі,* – заўважае Антон Ляшчынскі. – *Яе загубілі ўсе гэтыя «кодакі», «конікі» і «фуджы», якія канвеерным спосабам прадукуюць каляровыя шырспажыўскія фоткі, што з мастацтвам нічога агульнага не мае. Бо ў мастацкай фатаграфіі свая адметная спецыфіка, мова і, збольшага, графічная чорна-белая фактура. Гэта праца рук творцы, а не аўтамата!*

Паводле Антона Ляшчынскага, мастак адчувае вялікую розніцу паміж маніпуляцыямі кампутарнай мышкай і дакрананнем пэндзля да фактуры. Фатаграфічны вобраз ён пераасэнсоўвае і ўвасабляе ў графіцы. Або робіць асобныя працы алоўкам, іншыя – толькі фота. Ну і не абыходзіцца, зразумела, без сінтэзу чыстае графікі і фатаграфіі. Гэта можна было б назваць размаляванымі фотаздымкамі, але паспрабуй – разгадай таямніцу. А стварыць цуд на паперы дапамагае толькі майстэрства.



## Голае цела ў аб'ектыве

Сфатаграфаваць чалавека, каб хоць крыху адлюстраваць ягоны ўнутраны свет, і каб глядач пасля ўбачыў адухоўленую асобу, вельмі складана. Гэтыя працэс для майстры патрабуе самааддачы і нервовага напружання. Але нішто для творцы дарэмна не праходзіць. Нават праца з такім далікатным матэрыялам, як чалавечая аголеная натура. Напэўна, кожны, хто бачыў працы Антона Ляшчынскага, задаецца пытаннем: як і дзе маэстра адбірае свае мадэлі?

– *Матэрыял для фотасесій адбіраецца спантанна, як пейзаж ці нацюрморт,* – гаворыць мастак. – *Збольшага, гэта выпадковыя людзі. У нас жа няма фотамадэляў, ёсць звычайныя манекеншчыцы. Мала хто з жанчынаў адмаўляўся здымацца аголенымі. Тут чыстая псіхалогія. Проста трэба знайсці падыход да чалавека. Вось размаўляю з будучай мадэллю, паказваю папярэднія працы. Калі падабаецца – дык пачынаем супрацоўнічаць. Некаторыя самі прыходзяць у майстэрню і напрошваюцца здымацца. На вуліцах я да людзей з падобнымі прапановамі не чапляюся!* (Смяецца).

Чаму ўсё ж аголеная натура? Не толькі дзеля прыцягнення ўвагі ці правакавання гледача. Каб быць прафесіяналам у фотамастацтве, трэба найперш мець рацыянальны розум і добрае абсталяванне. Тут мастак ужо не такі вольны, бо абмежаваны тэхнікай, без якой мастацкая фатаграфія немагчыма. У гэтых варунках вельмі важна, каб ідэя матэрыялізавалася ў адпаведнай форме.

– *Фота мае магчымасць найбольш дакументальнага адлюстравання натуры, бо апарат фіксуе дакладна тое, што перад аб'ектывам,* – тлумачыць Антон Ляшчынскі. – *Фатаграфаванне жывога чалавека, асабліва аголенай натуры – вельмі складаная рэч. Пасля толькі ад мастака залежыць, як выявіць тую ці іншую чалавечую натуру. А яе можна паказаць гратэскна, як славак Ян Саўдэк ці лірычна, як літовец Дзіхавічус. Галоўнае падпарадкаваць халодную камеру свайму мастацкаму густу і погляду, каб выявіць канкрэтыку і праз адзінкавае паказаць тыповае. Гэта творча-інтымны працэс, размова без словаў пра патаемнае, глыбока асабістае, якое пасля фотасесіі можа ніколі не выявіцца і не раскрыцца...*

## Гарнітур ад Сашы Варламава

У 2000 годзе Антон Ляшчынскі быў узнагароджаны дыпломам як пераможца ў намінацыі ФОТА Рэспубліканскага конкурса моды і фота «Супермадэль Беларусі – 2000». Ягоныя працы страшэнна спадабаліся айчыннаму куцюр'е Сашу Варламаву, і мастак быў запрошаны «працаваць» з мадэлямі на конкурсах прыгажосці.

– *Я гляджу на мадэль канкрэтна і прафесійна, мяне цікавіць арыгінальная фактура і прыгажосць,* – прызнае Антон Ляшчынскі. – *А на конкурсах прыгажосці заўсёды ёсць выбар і поле для манеўру...*

Вось і 10 сакавіка ў Гродне маюць запрэзентавацца «Модныя казкі» ад Сашы Варламава, да якіх наш маэстра рабіў ілюстрацыі. Антон Антонавіч распавядае, што Варламаў паабяцаў заплаціць нейкі сімвалічны ганарар за працу.

– *Але ж я рабіў здымкі не дзеля грошай,* – распавядае мастак. – *І ў якасці ўзнагароды папрасіў Сашу Варлама пашыць мне арыгінальны гарнітур светла-кафейнага колеру. Вось хаджу, як большыня мастакоў у швэдары. А так, у модным стылёвым гарнітуры, буду дзяўчатам больш падабацца!* (Смяецца)

**Юры ГУМЯНЮК**



■ ***Святлана Карпей, фотамадэль:***

– Антон Антонавіч Ляшчынскі – высокапрафесійны і вельмі патрабавальны ў адносінах да сябе мастак, які стала знаходзіцца ў пошуку і, як мне падалося, баіцца паўтарыцца. Надзвычай патрабавальны ён таксама і да мадэлі. А быццё фотамадэллю ў знанага майстры патрабуе значных фізічных высілкаў. Не кожны зможа прастаяць на адным пальцы ці застыгнуць нерухома ў нязручнай позе паўгадзіны, пакуль маэстра настройвае аб'ектыў фотакамеры ці эксперыментуе са святлом... Я супрацоўнічала з мастаком на працягу года, прыходзіла на фотасесіі прыкладна раз у месяц. Спачатку мне хацелася фатаграфавацца ў розных нязвыклых касцюмах. Але я зразумела, што пераапрананне будзе нечым штучным, бо адзенне дыктуе стэрэатыпы. А голае цела, як гліна, і з яго значна прасцей ляпіць мастацкія вобразы. І яны выходзяць вельмі натуральныя. Некаторыя дзяўчаты саромеюцца распранацца, а тым больш пазіраваць аголенымі перад фотакамерай. Я стаўлюся да гэтага спакойна, бо адчуваю, што раблю добрую справу. Тым больш, калі пасля атрымаецца мастацкі твор і праца мастака будзе належным чынам ацэнена.

## Нарабілася

**Дзве** тоны спірта на суму 11 мільёнаў рублёў затрымалі аператыўнікі ў жыхароў Гродна. У адным з выпадкаў, 980 літраў безакцызнага алкаголю знайшлі ў салоне буса «Фальцваген». Яго ўладальнік ужо прыцягваўся за незаконнае захоўванне спірта. У другім выпадку, алкаголь выявілі ў гаражы жыхара пасёлка Паўднёвы. Парушальнікі запэўнівалі, што алкаголь ім патрэбны для асабістага спажывання.

■

**Амаль** 54 кілаграмы псіхатропных рэчываў затрымалі воранаўскія мытнікі сумесна з супрацоўнікамі памежных і праваахоўчых органаў. Наркота ехала праз беларуска-літоўскую мяжу фурай з Масквы ў Вільню. Капсулы, раскладзеныя па пакецыках, знаходзіліся ў чатырох скрынях у кабіне машыны. Наркотык канфіскаваны, вядзецца пошук яго ўладальніка.


Фота ByMedia.net

*Internet-клубы карыстаюцца папулярнасцю сярод падлеткаў*

# INTERNET замест газетаў

**У траўні зменіць месца свайго знаходжання папулярны газетны магазін «Гродноаблсаюздруку», які знаходзіцца ў будынку адзялення сувязі № 29, што па вуліцы Горкага. Замест гэтага ўладальнік будынка – «Гродноаблпошта» плануе адчыніць тут Internet-клуб. Такое рашэнне выклікала незадавальненне мясцовых жыхароў, якія прызвычаіліся менавіта тут, у камфортных умовах, набываць газеты.**

– Мы атрымалі паведамленне ад «Аблпошты», пра тое, што з траўня дамова арэнды з намі скасоўваецца. Як нам патлумачылі, гэтае памяшканне будзе аддадзена пад Internet-клуб, – гаворыць намесніца дырэктара Унітарнага прадпрыемства «Гродноаблсаюздрук» Галіна Макарэвіч.

– Гэта наш будынак... Акрамя таго, ліквідаваць краму ніхто не збіраецца. Яна будзе перанесена на другі паверх, – сцвярджае галоўны інжынер «Гродноаблпошты» Эдуард Ванейлік. На яго думку, ніхто са сталых наведвальнікаў крамы не павінен непакоіцца ў сувязі з пераносам крамы на другі паверх.

Аднак, гэтыя аргументы не пераконваюць кліентаў папулярнай крамы, якія ўжо звярнуліся з адпаведнай скаргай да старшыні Гарадзенскага гарвыканкама Аляксандра Антоненкі. Яны спадзяюцца, што гарадзенскія ўлады пойдуць ім насустрач і крама захавае сваё месца знаходжання.

Паводле нашай інфармацыі, сітуацыя вакол гарадзенскай крамы ўжо стала падставай для перамоваў паміж Міністэрствам сувязі і Белсаюздрукам.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

# Дапаможам земляку!

**Адміністрацыя дзяржаўнай установы «Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр дзіцячай анкалогіі і гематалогіі» распаўсюдзіла зварот, у якім просіць дапамагчы ў зборы сродкаў на алагенную няроднасную трансплантацыю касцявога мозгу гарадзенцу Аляксандру Уладзіміравічу Сакелю. Хлопец 1968 года нараджэння мае дыягназ: вострыя міелвобласны лейкоз, ранні рэцэдыў. Нумар гісторыі хваробы: 352.**

Як паведамляюць лекары правядзенне алагеннай няроднаснай трансплантацыі касцявога мозга можа даць хвораму шанец на выздараўленне. Роднасная донара ў Аляксандра няма. А пошук няроднаснага донара ў Еўрапейскім банку донараў, аперацыя па забору клетак касцявога мозгу і дастаўка іх у Менск каштуе прыблізна 15 тысячаў еўра.

Разліковы дабрачынны рахунак 3625000000348 адкрыты ў ашчадным банку «Беларусбанк», код 795. УНП 600395123, ОКПО – 28879318. Пры афармленні грашовага пераводу просьба пазначыць, што сума пералічваецца для лячэння А. У. Сакеля.

Родныя і блізкія Аляксандра загадзя ўдзячныя за любую пералічаную суму.

**Ул. Інф.**

Тэлефануйце 72-29-96

**День змагаецца за вас**

# Справаздача за люты

***Шаноўныя чытачы, напрыканцы кожнага месяца мы будзем друкаваць агляд рэпарцёрскіх справаў, якія заводзім у рубрыцы «День» змагаецца за Вас». Сёння прапануем нашую першую справаздачу.***

**Справа №1**
**«Працоўная кніжка»**

Гэтую справу мы завялі па просьбе былога дырэктара сумеснага нямецка-беларускага прадпрыемства «Экалагічныя праекты» Анатоля Іванова.

Нагадаем, што спадар Анатоль быў звольнены з СП «Экалагічныя праекты» амаль тры гады таму, але яму не была выдадзеная працоўная кніжка. Спробы экс-дырэктара атрымаць працоўны дакумент пры дапамозе пракуратуры, якая павінна рэагаваць на парушэнні заканадаўства (у тым ліку – працоўнага), не прынеслі выніку. Пасля гэтага Іваноў склаў позву супраць «Экалагічных праектаў» у суд. Незадоўга даканчатковай развязкі судовай эпапеі, гісторыяй звальнення экс-дырэктара зацікавіліся рэпарцёры «Дня».

Калі суд другой інстанцыі вынес рашэнне на карысць нашага чытача, мы падумалі, што гэтую справу можна будзе хутка закрыць. Аднак СП «Экалагічныя праекты», ужо трэці месяц, ігнаруе рашэнне суда і кніжку Іванову не выдае. Не дапамагаюць нават намаганні судовага выканаўцы, які ў мінулы панядзелак выклікаў абодва бакі да сябе ў кабінет, каб, нарэшце, выканаць судовае рашэнне. Але дырэктар СП «Экалагічныя праекты» А. Нічыпар праігнараваў гэтае мерапрыемства.

Ствараецца ўражанне, што для дырэктара Нічыпара і ягонага шэфа – старшыні СВК «Кастрычнік» (заснавальнік СП «Экалагічныя праекты» з беларускага боку) Віктара Крамко – законы нашай краіны проста не існуюць. Чаму? Пры нагодзе мы паспрабуем адказаць на пастаўленае пытанне.

**Справа №2**
**«Грошы меліяратараў»**

Гісторыя пра тое, як са Слонімскага прадпрыемства меліяратыўных сістэмаў (ПМС) на працягу двух гадоў у невядомым накірунку знікла больш за 17 мільёнаў рублёў. За гэты ж перыяд умовы аплаты працы работнікаў ПМС – значна пагоршыліся. Залежнасць, як нам падаецца, – відавочная.

Галоўнымі «падазронымі» ў марнатраўстве, на думку нашай чытачкі Вольгі Кузьміной, трэба лічыць дырэктара прадпрыемства ў Слоніме Аляксандра Гетманчука і ягонага гарадзенскага шэфа – дырэктара аб'яднання «Гроднамеліявадгас», дэпутата абласнога Савета Барыса Багданца.

Пасля папярэдняга расследавання па гэтай справе рэпарцёры «Дня» прыйшлі да высновы, што нашая чытачка мае рацыю. А дзеля больш прафесійнага высвятлення абставінаў скандальных падзеяў мы накіравалі адмысловы запыт у абласную пракуратуру. Гэты запыт з'яўляецца адначасова паведамленнем пра здзяйсненне злачынства, па якому пракуратура, павінна, як мінімум, правесці праверку і даслаць на адрас рэдакцыі падрабязную справаздачу.

Цікава, што адказ пракуратуры мы пакуль не атрымалі, але спадары Багданец і Гетманчук ужо пачалі хваляваца. Пра гэта паведамілі нашыя крыніцы ў Слоніме. У прыватнасці, высветлілася, , што Барыс Багданец нядаўна выступаў перад калектывам Слонімскага ПМС і пагражаў, што падасць на нашую газету ў суд.

За што? Гэтага ён не патлумачыў. Калі не лічыць, што ў публікацыі мы завысілі колькасць звольненых за перыяд Багданцовага кіравання «Гроднамеліявадгасам» дырэктараў падведамасных яму структураў. Мусім прызнаць, што такая недакладнасць з нашага боку сапраўды мела месца. Замест 14 (як мы напісалі) пад кіраўніцтвам Багданца паспелі, пакуль што, страціць пасаду «толькі» 8 дырэктараў. Аднак, разам са звольненымі галоўнымі інжынерамі, колькасць замененых кіраўнічых кадраў можна памнажаць як мінімум удвая. Таму ўдакладненне памераў кадравай чысткі, праведзенай на працягу двух год Багданцом, наўрад ці можа прадставіць ягоную асобу ў лепшым, чым зараз, святле.

Каб спадар Багданец, не дай божа, не падумаў, што мы пра яго забыліся – скарыстаемся момантам і паведамім, што будзем абавязаныя кожнаму, хто паведаміць рэдакцыі якія небудзь звесткі, пра абставіны набыцця нерухомасці, якімі валодае ці карыстаецца народны абраннік.

**Справа №3**
**«Незаконны акт»**

Можна сказаць, што гэтая справа – працяг справы №1. Таксама, як у першым выпадку, у ёй фігуруе СП «Экалагічныя праекты», якое, на гэты раз, мы падазраем у парушэнні правоў былога юрысконсульта гэтага прадпрыемства Уладзіміра Удалых.

Нагадаем, што спадара Удалых дырэктар СП «Экалагічныя праекты» А. Нічыпар звольніў на падставе паперы, складзенай з парушэннем такой колькасці патрабаванняў, што называць яе «актам», як гэта робіць кіраўнік СП – мякка кажучы – смешна. Аднак пракуратура гарадзенскага раёна і вобласці, па незразумелых для нас прычынах, ужо больш за год не можа (ці не хоча) даць прававую ацэнку гэтаму «дакументу».

Хай і не з лепшага боку, але такія паводзіны пракуратуры, можа патлумачыць апублікаваны намі фрагмент выступу дырэктара Нічыпара ў судзе. Нагадаем – дырэктар пад прысягай паведаміў, што заснавальнікі кіруемага ім прадпрыемства выдаткоўвалі буйныя сумы наяўных грошай «дзеля подкупа суддзяў і на размовы з пракурорамі».

Толькі вера у тое, што большасць пракурорскіх работнікаў – сумленныя людзі, змусіла нас накіраваць яшчэ адзін запыт на імя пракурора гарадзенскай вобласці з просьбай патлумачыць, на якой усё ж падставе звольнілі нашага чытача Удалых. Акрамя таго, мы спадзяемся, што пракуратура звярне ўвагу і на іншыя аспекты дзейнасці скандальнага прадпрыемства. Напрыклад, – высветліць, чым напрацягу апошніх трох год займаецца СП, якое, паводле першапачатковых планаў, увесь гэты час павінна прыносіць даход не толькі сваім заснавальнікам, але і дзяржаве.

**Справа №4**
**«Псіхічна здаровы»**

Новая і самая цяжкая з заведзеных намі справаў. Яе сутнасць: дапамагчы чалавеку, якога цягам 10-ці гадоў падвяргалі незаконнаму прымусоваму псіхіятрычнаму лячэнню, атрымаць належную кампенсацыю ад дзяржавы. Першае, што мы зрабілі дзеля вырашэння гэтай праблемы – накіравалі рэдакцыйныя запыты ва ўстановы, якія ў розныя часы спрычыніліся да несправядлівасці.

Шаноўныя, чытачы! Калі Вас напаткала нейкая цяжкавырашальная праблема – тэлефануйце ў нашую рубрыку. Мы паспрабуем Вам дапамагчы.

**Рэпарцёры «Дня»**



Фота ByMedia.net

# 11 «Б» клас гімназіі №2

**Працягваем знаёміцца з выпускнымі класамі гімназіі №2. Па прыкладу сваіх сяброў, якія ў нас гасцілі на мінулым тыдні, да акцыі «Наша будучыня» вырашылі далучыцца вучні 11 «Б» класа гэтай навучальнай установы.**

**Тым, хто хоча прыняць удзел у галасаванні на лепшы выпускны клас Гродна нагадаем, што мэтай акцыі «Наша будучыня» з'яўляецца абвяржэнне стэрэатыпнага ўспрыняцця маладога пакалення як абыякавага, ні да чаго не здольнага і пазбаўленага жыццёвых арыенціраў.**

**Калі Вы – вучань выпускнога класа і хочаце, каб мы расказалі пра Ваш клас, звяртайцеся да нас па тэлефоне: 72-29-96.**



***Першы рад знізу* (злева направа): Анастасія Чыжэўская, Аляксандра Вартанава, Марыя Хітрына, Аляксандра Юргілевіч, Ганна Ярашэвіч *Другі рад*: Усевалад Богуш, Юлія Семак, Ірына Болатава, Ганна Балтуцкая, Мікалай Алтышкін *Трэці рад*: Андрэй Кандратчык, Яўген Конанаў, Аляксей Чуган, Аляксандр Лапацік *Чацвёрты рад*: Уладзімір Барадулін, Максім Журанаў, Кірыл Шанько, Артур Федаровіч.**

**Анастасія Чыжэўская**

Хоча авалодаць прафесіяй эканаміста са спецыялізацыяй «фінансіст». Нягледзячы на «папяровы» характар будучай працы, можна не хвалявацца за фізічную форму Анастасіі. Пры ўмове, што захапленні плаваннем, канькабежным і веласіпедным спортам, дзяўчына перанясе ў дарослае жыццё. Пажадаем Анастасіі не забывацца на ўлюбёныя кніжкі і музыку, якія дапамагаюць крышталізаваць яе непаўторную асабовасць.

**Аляксандра Вартанава**

Свае арганізатарскія здольнасці, спалучаныя з прагай да адстойвання справядлівасці, Аляксандра зможа раскрыць, калі стане юрыстам. А вывучыцца на яго дзяўчыне дапаможа эрудыцыя (здабытая дзякуючы любові да кнігаў), заняткі спортам, а таксама – камунікатыўныя здольнасці. Чалавечыя якасці, якія падабаюцца Аляксандры, акрамя яе самой мае сяброўка – Марыя Хітрына.

**Марыя Хітрына**

Чалавек, які ведае, што найбольш эфектыўная зброя – гэта «слова». Улічваючы жаданне Марыі палепшыць чалавечую цывілізацыю – не дзіўна, што прафесійную будучыню яна звязвае з літаратурай. Вольны час Марыя таксама прысвячае кнігам, а веданне апісаных у ёй постацяў, прымушае дзяўчыну цаніць уласную самабытнасць. Адзіны чалавек, ад якога Марыя пераймае лепшыя якасці – яе сяброўка Аляксандра Вартанава.

**Аляксандра Юргілевіч**

Вызначаецца ўменнем ладзіць з людзьмі і гэтую здольнасць хоча выкарыстаць у рэкламным альбо турыстычным бізнесе. Пра тое, што Аляксандра з'яўляецца цікавай суразмоўніцай сведчыць разнастайнасць яе захапленняў. У вольны час дзяўчына займаецца малярствам, спортам, а падчас канікулаў заўсёды імкнецца выбрацца ў цікавае падарожжа. Людзі, з якіх Аляксандра бярэ прыклад – яе бацькі.

**Ганна Ярашэвіч**

Пасля гімназіі пачне авалодваць эканамічнымі ведамі. Незалежна ад таго, куды Ганна дзеля гэтага паступіць – ёй будзе лёгка пасябраваць як з выкладчыкамі, так і з аднагрупнікамі. Таму што сярод іх, напэўна, будзе шмат цікавых асобаў, а сустрэчы і размовы з такімі людзьмі – улюбёны заняткак дзяўчыны. Спадзяемся, што непаўторная асабовасць Ганны, таксама зацікавіць яе новых знаёмых.

**Усевалад Богуш**

Будзе паступаць ва універсітэт, а потым – у аспірантуру, каб пазней працаваць выкладчыкам ГрДУ. Калі Усевалад захавае цікавасць да вышывання крыжыкам, наведвання пажыўных месцаў і заняткаў 3D дызайнам, то ён мае шансы стаць кумірам студэнтаў.

**Юлія Семак**

Любоў да падарожжа прадвызначыла выбар будучай прафесіі. Юлія хоча стаць менеджэрам па турызму, каб клапаціцца аб земляках, якія наведваюць далёкія краіны. Калі лёс занясе дзяўчыну на знакаміты бразільскі карнавал ці на Тыбет, яна не зняславіць Беларусь. У першым выпадку ёй дапаможа ўменне танцаваць, а ў другім – захапленне экстрэмальным спортам.

**Ірына Болатава**

Прызналася, што «цягам усяго жыцця» не можа вызначыцца з выбарам прафесіі. Можа гэта тлумачыцца тым, што сённяшняе захапленне Ірыны музыкай, непрыкметна для яе самой, сталася першай прыступкай у кар'еры рок-спявачкі? У дадзены момант дзяўчына з'яўляецца вакалісткай гурта THE PUNK і, як чалавек з моцным характарам, адвяргае ўсіх куміраў.

**Ганна Балтуцкая**

Добрае веданне ангельскай мовы паўплывала на тое, што Ганна выбярэ прафесію, якая будзе з ёй звязаная. Пакуль жа, акрамя канверсацыяў са знаёмымі і сябрамі, дзяўчына прысвячае вольны час заняткам танцамі. На пытанне, на каго б яна хацела быць падобнай, Ганна адказвае: «На сябе».

**Мікалай Алтышкін**

Добра разумее значэнне крылатага выразу «без гісторыі – няма будучыні», таму хоча вывучыцца на даследчыка мінуўшчыны. Толькі не трэба думаць, што захапленне гісторыяй з часам ператворыць Мікалая ў «кніжнага чарвяка». Такога не здарыцца, дзякуючы захапленню хлопца спортам і кінематографам. Чалавек, на якога Мікалай хоча быць падобным – ягоны брат.

**Андрэй Кандратчык**

Будучы дыпламат. Ва ўсялякім выпадку, прафесія Андрэя будзе звязаная з міжнароднымі зносінамі. Захапленне гульнявымі відамі спорту, дазволіць хлопцу стаць аматарам футбольнага, хакейнага, валейбольнага ці баскетбольнага клубаў той мясцовасці на зямным шары, куды яго закіне лёс.

**Яўген Конанаў**

Ягоная прафесійная мара: «што-небудзь звязанае з навуковай дзейнасцю ў галіне хіміі ці біялогіі». Спадзяемся, што адкрыцці Яўгена прынясуць чалавецтву толькі карысць, а нашаму гораду – сусветную славу. Пакуль жа, таварышы хлопца па экалагічнаму турызму маюць унікальную магчымасць, слухаць ігру будучага навуковага свяцілы на гітары ля вогнішча.

**Аляксей Чуган**

Механічна-матэматычны факультэт – такую перспектыву бачыць для сябе Аляксей на бліжэйшыя пяць гадоў. Пасля чаго, як падаецца хлопцу, ён стане выкладчыкам. З улікам схільнасцяў Аляксея да дакладных навукаў, не здзіўляе ані ягонае захапленне кампутарам, ані – більярдам, гульня на якім патрабуе ведання законаў фізікі ды геаметрыі.

**Аляксандр Лапацік**

Кажа, што сваю працу хацеў бы звязаць з веданнем замежнай мовы. Калі ўлічваць захапленне хлопца музыкай і спевамі, можна параіцьАляксандру паспрабаваць сябе на еўрапейскай рок-сцэне? А праз некалькі гадоў, падчас цэрэмоніі атрымання прэміі «Грэмі», прыпомніць, хто яму прадракаў музычную кар'еру? Чаго мы яму і жадаем.

**Уладзімір Барадулін**

Найбольш важнай і запатрабаванай лічыць прафесію эканаміста, таму, менавіта гэтым, хоча займацца ў дарослым жыцці. Веданне кампутара, вядома, дапаможа Уладзіміру як у вучобе, так і ў будучай працы. А захапленне настольным тэнісам – падтрымае ягоную добрую фізічную форму. Пра чалавека, на якога Уладзімір хоча быць падобным, ён кажа: «Вядомая асоба». Можа гэта Барадулін, які носіць імя Рыгор?..

**Максім Журанаў**

Вельмі любіць гатаваць розныя смачныя стравы і хоча вывучыцца на повара. У вольны ад гімназічных заняткаў час, Максім займаецца нумізматыкай і наведвае секцыю рукапашнага бою. Атрымлівае цікавае вельмі цікавае спалучэнне, калі ўспомніць героя Стывена Сігала з кінацыклу «Ніка».

**Кірыл Шанько**

Нягледзячы на тое, што Кірыл – будучы юрыст, у адказах на пытанні ён вельмі лаканічны. Пра свае захапленні, напрыклад, хлопец сказаў: «Спорт, музыка». Спадзяемся, што ў дадзеным выпадку сціплаcць – сястра Кірылавага юрыдычнага таленту.

**Артур Федаровіч**

Марыць зрабіць кар'еру ў сферы паслугаў, каб жыццё людзей сталася больш лёгкім і прыемным. Артура вызначае нецярпімасць да рознага кшталту забіякаў і прайдзісветаў, якія наведваюць школьныя дыскатэкі. Ён любіць батаніку і калекцыяную розныя віды траваў. Куміры хлопца – знакамітыя мысліцелі і тата. А яшчэ, Артур не паважае тых, хто ўжывае наркотыкі.



**Павал Малей**

У мінулым выпуску «НАШАЙ БУДУЧЫНІ» здарылася прыкрая недарэчнасць. Прозвішча вучня 11 «П» класа гімназіі №2 было напісана з памылкай. Просім прабачэння ў Паўла Малея і жадаем яму поспехаў у жыцці.

**Прапануем прыняць удзел у галасаванні на лепшы выпускны клас Гродна. Дзеля гэтага – запоўніце купон і дашліце яго на адрас: 230025 г. Гродна, вул. Карла Маркса, 11 (2-гі паверх).**

**КУПОН-ЛАТАРЭЯ**

**Акцыя «НАША БУДУЧЫНЯ»**

Мне найбольш спадабаўся клас____ школы ______

Імя ________ Прозвішча ________

Мой кантактны тэл. ________

Адрас: ________

**Штомесяц сярод атрыманых купонаў мы будзем разыгрываць тры паўгадовыя падпіскі на нашу газету. Па выніках галасавання напярэдадні выпускных вечароў будзе вызначаны найлепшы клас горада, якому «День» прысвяціць галоўную тэму аднаго з чэрвеньскіх нумароў.**

**Давайце знаёміцца з нашай будучыняй РАЗАМ!**

# Свята сілы і мужнасці

**Традыцыйны фестываль славянскіх адзінаборстваў адбыўся напярэдадні Дня абаронцы Айчыны ў Гарадзенскім гарадскім доме афіцэраў.**

У мерапрыемстве прынялі ўдзел: Гарадзенскі клуб славянскіх адзінаборстваў «Арыдан», каманды 6-й гвардзейскай механізаванай і 62-й зенітна-ракетнай брыгадаў, Гарадзенскага памежнага атрада і прадстаўнікі Гарадзенскай абласной федэрацыі самба.

Байцы паказалі не толькі прыёмы сучаснага рукапашнага бою, але і старадаўнія славянскія абрады, баявое выкарыстанне такіх звыклых рэчаў, як бервяно ці каса.

**На фота: салдаты Гарадзенскага памежнага атрада паказваюць прыёмы рукапашнага бою.**

**Альгерд ТАЛКАНІЦА**
**Фота Яраслава ВАНЮКЕВІЧА**

*Дурноты нашага жыцця*

# НезаЛАДзілася!



**Экс-старшыню Белтэлерадыёкампаніі Ягора Рыбакова знялі з пасады і арыштавалі не за тое, што пры ім беларускую мову выгналі з выпускаў тэленавінаў, а за тое, што ён, нібыта, «лавіў рыбку ў мутнай вадзе».**

Ах, Божухна! Нешта ўсе чыноўнікі, якіх прэзідэнт асабіста прызначае на вельмі адказныя пасты, урэшце рэшт аказваюцца ардынарнымі злодзеямі. А што ўжо казаць пра дробных клеркаў з правінцыі, якіх пракантраляваць амаль немагчыма? Суцэльная параноя ў нашай краіне з кадравым пытаннем. А некалі верылася, што кадры вырашаюць усё. Асабліва на месцах.

І яны вырашалі, як напрыклад, у «Тэлерадыёкампаніі Гродна». Гледзячы на свайго патрона з Менску, Ягора Рыбакова, які зрабіў кадравы перагрус на цэнтральным TV, ягоны калега Уладзімер Пярцоў нешта падобнае правёў у Гродне. Дыназаўраў савецкай журналістыкі «папрасілі» сысці ў прамінулую эпоху, а набралі дзеля забаўлялаўкі паслухмяных хлопчыкаў і дзяўчынак, нават і не звязаных з той журналістыкай. Усё гэта называлася «новай канцэпцыяй вяшчання». Эксперыментавалі месяцаў дзесяць, пакутвалі, затыкаючы чым заўгодна шматгадзінную эфірную зеўру, пакуль не паўстаў тэлеканал «ЛАД». Але ўсё роўна незаЛАДзілася!

Цяпер, пэўна, тыя звольненыя гарадзенскія дыназаўры б'юць у ладкі, што Рыбакоў, які нібыта «лавіў рыбку ў мутнай вадзе», сам патрапіў у сетку. Але не ў якасці залатой рыбкі. І цяпер спадар Пярцоў мусіць палагаднець. Асабліва ва ўзаемаадносінах з мясцовымі ўладамі, з якімі давялося яшчэ летась «задрацца» з-за праблемы асвятлення эпідэміі мэнінгіту. Змена кіраўніцтва на TV у Менску – шанец вяртання для дыназаўраў «на кругі своя». Бо, паводле словаў знаёмага супрацоўніка мясцовай тэлерадыёкампаніі, адна гарластая рэдактарка меркавала вяшчаць ажно да 70-ці гадоў, пакуль у горле не перасохне. А яе былы калега, пэўна, палічыўшы сябе прыгажэйшым за Тома Круза, меркаваў да бясконцасці свяціць сваёй лысінай з тэлеэкрана. Кажуць, нават пажаліўся жонцы кіраўніка вобласці, што адхілілі і не далі раскрыцца напоўніцу ягонаму няўрымслівому таленту...

Але гледачу ад гэтага не горача і не халадно. Ён жадае спажываць якасны прадукт, прычым не толькі для цела, але і для душы. Бо нельга яго ўвесь час карміць адыёзнай прапагандай, замешанай на цінэйджарскай свістаплясцы. Гэта ўсё роўна, што рагатаць на пахаванні ці каньяк запіваць мачой.

Гнілая сітуацыя ў нашай краіне як з лаяльнымі кадрамі, так і з дзяржаўным тэлерадыёвяшчаннем. Розніца ў эфіры смурод ад пратухлай рыбы. Ну, дык вядома – рыба гніе з галавы!

**Юры ГУМЯНЮК**

*Перадузяты агляд прэсы*

# Mauvais genre

*«Разумных бараноў наогул жа нямнога,*
*А гэты – дык дурней дурнога...»*
*Кандрат КРАПІВА*

**На мінулым тыдні я амаль не палаяўся з рэдактарамі «Дня». Уявіце: пачынаю чытаць улюбёную (пасля «Агляду» – зразумела) рубрыку «Лічба «Дня» і адчуваю, што шчэць на маёй гагавіцы стае колам. Бо напісана там, быццам 14 лютага ва ўсім Гродне было зарэгістравана ўсяго 53 шлюбы. Але напярэдадні «Вечерний Гродно» – якому даваяюць пісаць крыптарэкламныя артыкулы (гэта такія, якія «лепяцца» журналістамі пад дыктоўку спонсараў, каб вы не адразу зразумелі, што з вас робяць дурняў) не толькі аператары сотавай сувязі, але нават банкі – напісаў, што ў той самы дзень толькі ў Доме грамадзянскіх абрадаў распісалася ажно 130 (!) пар.**

Не ведаю, што б сталася з маім і без таго прахруканым голасам, калі б мне своечасова не патлумачылі, што ніякіх 130-ці пар не было. А колькасць шлюбаў, зарэгістраваных 14 лютага ў Доме грамадзянскіх абрадаў, склала ў чатыры разы меншую лічбу. Чаму памыліліся рэдактары «ВГ»? Можа, каб такім чынам падкрэсліць якасць гарэлкі «Свадебная» Гарадзенскага лікёра-гарэлкавага завода (рэкламаванай пад выглядам журналісцкага матэрыяла) ад якой не проста двайцца, але «чацвярыцца» ў вачах...

Вось такая атрымалася крыптарэклама. А цяпер – агляд.

***

Не дарма я пачаў чытаць «Гродненскую правду». Асабліва мне «падабаюцца» суботнія нумары, у якіх «ГП» адказвае на пытанні сваіх чытачоў. На мінулым тыдні, напрыклад, гараджанка Т. Валасецкая спыталася: ці шкодзіць здароўю тое, што яна вельмі любіць піражныя?

*«Россиян решено лечить пирожными,» – пачынаецца адказ «ГП». Далей распавядаецца пра тое, якія кандытарскія вырабы збіраюцца ў бліжэйшы час выпякаць у Расеі, колькі грамаў нейкага расейскага торта задавальняе сутачную патрэбу арганізма і гэтак далей. Заканчваецца ж «адказ», у якім – ні слова пра беларускую «кандытарскую рэчаіснасць», словамі: – Как известно, кондитерские изделия составляют примерно четвертую часть рациона россиян».*

Ці гараджанка Валасецкая павінна разумець гэта як намёк, што калі яна хоча есці піражныя, то ў яе адзіны шлях: чамадан – вакзал – Расея?

***

Калі «ГП» блытае Беларусь з Расеяй, то «Биржа информации» – ніяк не можа змірыцца з тым, што нашая краіна не з'яўляецца сябрам Рады Еўропы і на нас не распаўсюджваецца юрысдыкцыя Еўрапейскага суда па правах чалавека ў Страсбургу.

*«Неужто сегодня, чтобы разрешить бытовую проблему в маленьком Щучине, нужно отправляться в Страсбургский суд?»* – з апломбам пытаецца «БИ».

Калегі, у пазамінулым аглядзе я ўжо прасіў: не ўводзце сваіх чытачоў у зман з гэтым Страсбургскім судом. Бо яны Вас калі-небудзь паб'юць.

***

«БИ» – газета не толькі «еўрапейская», але і супер, я б сказаў, «лібертынская» (ад французскага libertin – распуснік). У рэцэнзіі на спектакль «Тарцюф» Гарадзенскага абласнога драматычнага тэатра «БИ» заяўляе:

*«Современное общество терпимо смотрит как на ханжество, так и на лицемерие, мещанство, зазнайство и другие «поводы» негодования моралистов».*

Шаноўныя, калі хочаце апраўдаць уласныя недахопы– не прыпісвайце іх, калі ласка, усяму грамадству. Бо гэта, як сказаў бы аўтар «Тарцюфа» Мальер: mauvais genre.



Перакладу спецыяльна для «БИ»: дурны тон.

**Свінтус ГРАНДЫЁЗУС**

# «Маладыя прэзідэнты разбіраюцца»

**Зусім не істотна, хто з гэтым пытаннем патэлефанаваў да нас у рэдакцыю. Газавы скандал паміж Беларуссю і Расеяй сёння абмяркоўваюць, нават, школьнікі. БТ і АНТ, тым часам, паказвае толькі тых беларусаў, якія абвінавачваюць у крызісе Крэмль, Пуціна ды алігархаў. Расейскія ж каналы, наадварот, паказваюць толькі працаўнікаў Лукашэнкі. Цікава, што ў гэтай «піяр-вайне», абодва бакі спасылаюцца на меркаванне «ўсяго народа».**

А што на гэта сам народ? За ўсіх беларусаў не адкажам, але за сто апытаных гарадзенцаў, калі ласка.

Хто вінаваты ў газавым скандале паміж Беларуссю і Расеяй, які абвастрыўся на мінулым тыдні?




## Расея – 52%

Адразу патлумачым, што не ўсе, хто абвінавачвае Расею, з'яўляюцца прыхільнікамі прэзідэнта Лукашэнкі. Ягоны электарат лёгка пазнаць па аргументацыі. «Нельга было адключаць газ узімку,» – практычна цытавалі кіраўніка дзяржавы адныя. «З саюзнікамі так не паступаюць,» – абураліся словамі Лукашэнкі іншыя. «Беларусь стопрацэнтова разлічваецца за газ, і яны не мелі права нас адключаць,» – гучаў, ізноў жа, запазычаны з выступу Аляксандра Рыгоравіча, аргумент. Такім чынам, апытаных, якія абвінавацілі Расею, бо вераць Лукашэнку, назбіралася 38 чалавек.

Затое 14 нашых суразмоўцаў прызналіся, што схільныя абвінавачваць Расею, бо, «у прынцыпе», не далюбліваюць расейцаў. «Мне ніколі не падабаліся ўсе гэтыя гульні ў інтэграцыю і «танны сыр», які, як вядома, бывае толькі ў пастцы, – распавяла прадстаўніца гэтай групы апытаных. – Я радуюся, што ў гэтым выпадку расейская «пастка» не спрацавала, а Лукашэнка, хай сабе і падманам, але настрапаліў беларусаў супраць Пуціна».

## Беларусь – 34%

Як не сумна, але большасць рэспандэнтаў з гэтай групы не хацела тлумачыць, чаму ў газавым скандале яны абвінавачваюць, менавіта, беларускі бок. «Прабачце, але па тэлефоне я б не хацеў распавядаць пра гэта,» – такое тлумачэнне мы пачулі ў 27 выпадках.

Тыя ж, хто адважыўся крытыкаваць кіраўніка беларускай дзяржавы ўжывалі такія аргументы: «Я ўвогуле не давяраю Лукашэнку і ўпэўненая, што ён хлусіць пра стопрацэнтовыя разлікі за газ. Але галоўная ягоная віна ў тым, што, за час ягонага кіраўніцтва, Беларусь стала цалкам залежнай ад Расеі, якая адключыла нам газ і зрабіла, так бы мовіць, папераджальны стрэл у нашую незалежнасць».

Яшчэ адна жанчына адказала: «У ачарненні Расеі беларускае тэлебачанне настолькі перагнула палку, што было сорамна глядзець. Так робяць, калі адчуваюць сваю віну, таму я думаю, што вінаваты беларускі бок».

## Не ведаю – 14%

Столькі нашых суразмоўцаў выказалі сумненні ў шчырасці аргументацыі як беларускага, так і расейскага боку. «Паглядзім, як будуць развівацца падзеі,» – патлумачыў мужчына, якому пакуль не хапіла інфармацыі, каб скласці ўласнае меркаванне наконт «газавай вайны». А адна з бабулек адказала: «Я ўжо старая, таму мне цяжка ацаніць, хто тут правы, а хто вінаваты. Пуцін і Лукашэнка – маладыя прэзідэнты. Хай яны і разбіраюцца».

**А. ПЫТАЛЬНІК**

ДЕНЬ
Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйны нумар 1587 ад 5.11.2003.
Адрас рэдакцыі: 220050, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, д. 16, пакой 226.
Адрас для лістоў: 230025 г. Гродна, вул. К.Маркса, 11
Тэл.: (0152) 72-29-96, (017) 206-55-08 E-mail: pagonia@promedia.by
Нумар газеты надрукаваны на ФДУП «Смаленскі паліграфічны камбінат», 214020, г. Смаленск, вул. Смальянінава, 1.
Наклад 5000 паасобнікаў. Замова № 8062
Аб'ём – чатыры ўмоўныя друкарскія аркушы.
Падпісаны да друку 25.02.2004 у 01:00.